Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

№39 (599) 29 верасня 2011 года
Кошт свабодны.

Кірмаш у Глыбокім.

Гарбузы з Зябак прэзентуе Юрый Пiлiмiон, настаўнік Зябкаўскай БШ.

*Фота Ул. Скрабатуна.*
*Працяг тэмы на стар. 11.*

**Мёрскі раён**

## Суквецце талентаў народных

■ Станіслаў Раманчук

**На прасторах былога СССР менавіта ў Беларусі нарадзілася ідэя праводзіць фестывалі нацыянальных меншасцей.**

У райцэнтры Мёры такое абласное маштабнае свята нацыянальных культур “Нас з’яднала зямля Беларусі” прайшло днямі ўжо ў шосты раз. Раней ўрачыстасці праводзіліся ў мясцовым РДК і не маглі змясціць у зале усіх жадаючых. Сёлета вырашылі перанесці свята ў любімую зону адпачынку гараджан на мясцовым возеры і не прагадалі, бо якраз быў цёплы і сонечны дзень бабінага лета. Гасцей урачыстасці сустрэў духавы аркестр Полацкага пагранатрада і шчодрая дарамі восені ярмарка. Да гэтага культурнага мерапрыемства таксама дадалі першы раённы інвестыцыйны форум, які асабліва зацікавіў уплывовых бізнесменаў з Турцыі і Расіі. Падчас самога абласнога свята яго гледачам было што пабачыць і паслухаць, прадэгусціраваць нацыянальныя стравы розных народаў. Акрамя гэтага, прама на цэнтральнай алеі парка выставілі свае работы майстры Дома рамёстваў з Дзісны, правёў майстар-клас віцебскі мастак Аляксандр Карпан. На працягу некалькіх гадзін гучалі над возерам беларускія, украінскія, польскія, яўрэйскія і нават узбекскія і азербайджанскія песні. Ва ўсіх удзельнікаў абласнога свята і яго гасцей надоўга застанецца ў памяці ўспамін аб гэтай падзеі, якая з’яднала столькі людзей і розных культур.

**Глыбоцкі раён**

## Малы, але ўдалы

■ Чэслаў Якубовіч

**У адрозненне ад іншых прадпрыемстваў галіны, невялічкі па памерах ільнозавод у вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна працуе рэнтабельна, хоць і размяшчаецца ў прыстасаваным памяшканні графскага маёнтка.**

Аднак тут пад умелым кіраўніцтвам дырэктара Віктара Кейзіка ўмеюць добра вырошчваць айчынны “паўночны шоўк”. Яшчэ летась практычна ўсю трасту са сцелішчаў убралі механізаваным способам, калі ў суседзяў тысячы гараджан мучыліся ў полі, бо лён любіць паклон. У гэтым годзе на плошчы 550 гектараў завод таксама абышоўся без ручной працы. Штодзень на ўчастку выходзіла да 10 прэсаў. Тэхніка прасавала трасту ў вялізныя рулоны, якія затым звозілі на далейшую перапрацоўку. Церабленне даўгунцу таксама правялі ў аптымальныя тэрміны пад жнівеньскія росы. Асабліва высокі ўраджай даў лён французскага гатунку “Аліза”. Удосталь завадчане сабралі сёлета і льнонасення, якога хопіць сабе і на продаж. Гэта прадпрыемства на Глыбоччыне – адно са старэйшых, дае працу больш чым 60 мясцовым жыхарам. Аднак настрой у многіх з іх цяпер трывожны, бо даўно ходзяць размовы аб ліквідацыі Мосарскага льнозавода і далучэння яго да Падсвільскага, які пакуль не працуе без страт. А вось мосарцы з пачатку года за 7 месяцаў працы атрымалі каля 60 млн. рублёў прыбытку і мараць аб тым, каб іх не пазбаўлялі фінансавай самастойнасці ў выпадку магчымага ўзбуйнення.

**Пастаўскі раён**

## Прадавец – мужчынская прафесія

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам па развіцці гандлю ў глыбінцы адным з лепшых у Беларусі з’яўляецца Пастаўскае райпа, за што яно і заслужыла права правесці ў сябе чарговы XXVI рэспубліканскі конкурс “Лепшы па прафесіі”.**

На працягу двух дзён у мясцовым Доме культуры, а таксама на аб’ектах супермаркета “Цэнтральны” і ўнівермага ў райцэнтры лепшыя прадстаўнікі ўсіх абласцей і сталіцы выяўлялі мацнейшых сярод прадаўцоў харчовых і нехарчовых тавараў. Папярэдне яны прайшлі адбор на нізавым узроўні і на абласных конкурсах, а ў гэтым фінале дэманстравалі сваю падрыхтоўку ў 7 розных выпрабаваннях. Ужо з самага першага конкурсу, каманднага прывітання, сімпатыі журы выклікала каманда Віцебскага аблспажыўсаюза, якая потым і заваявала першае месца. Сапраўднай сенсацыяй стала выдатнае выступленне маладых прадаўцоў-юнакоў, якія абверглі стэрэатып, што прадавец – гэта не мужчынская прафесія. Так, загадчык сельмага з вёскі Свіраны Пастаўскага раёна 22-гадовы Руслан Спірыдовіч стаў лепшым прадаўцом краіны харчовых тавараў, а Зміцер Камякевіч з Зельвы, што на Гродзеншчыне, - сярод прадаўцоў нехарчовай групы тавараў. На рэспубліканскім конкурсе прадаўцоў таксама ўдала выступілі і іншыя прадстаўнікі Віцебшчыны: у Юліі Шарабайка (Глыбокае) – 2-е месца, а Юлія Сяменька (Лепель) і Алена Котава (Талачын) сталі ўладальнікамі ўзнагарод за 3-е месца.

### Надвор’е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 29.09.11 | | | | пятн. 30.09.11 | | | | сб. 01.10.11 | | | | нядз. 02.10.11 | | | | пн.03.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +9 | +10 | +15 | +9 | +9 | +11 | +17 | +12 | +11 | +12 | +18 | +9 | +6 | +7 | +13 | +6 | +5 | +8 | +17 |
| Ціск, мм | 748 | 749 | 750 | 752 | 753 | 752 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 | 754 | 756 | 757 | 755 | 755 | 752 | 750 | 747 |
| Вільготнасць, % | 98 | 97 | 79 | 90 | 95 | 100 | 88 | 91 | 97 | 95 | 68 | 76 | 96 | 94 | 60 | 92 | 92 | 88 | 68 |
| Вецер м/сек | С-З 3 | С 4 | С 3 | С 2 | Ю 1 | Ю-З 2 | З 3 | З 2 | С-З 2 | С-З 4 | С 6 | С-В 4 | С-В 3 | В 2 | С 1 | Ю-В 1 | Ю 3 | Ю-З 4 | З 6 |




## Лічба нумара

**5-8 млрд. USD** – на такую суму, як паведаміла новы старшыня праўлення Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова, могуць пачацца перамовы аб чарговым крэдыце МВФ. Праўда, кіраўнік айчыннай банкаўскай сферы зрабіла ўдакладненне, што такі вялізны аб’ём знешніх займаў нам можа і не спатрэбіцца. Як падаецца, гэта не зусім шчыра, паколькі існуе шэраг неспрыяльных фактараў на фоне спадзяванняў аб узмацненні курсу беларускага рубля.

Справа ў тым, што сусветна вядомае рэйтынгавае агентства Moody’s ацаніла патрэбы Беларусі да канца года ў экстраным знешнім фінансаванні на суму 3-6 млрд. долараў. Па меркаванні заходніх экспертаў, такая ж сума спатрэбіцца беларусам для вырашэння іх надзённых эканамічных праблем і ў 2012 годзе. Хоць у сярэдзіне верасня ў нашай краіне зноў з’явіліся на дадатковай біржавай сесіі рыначны курс замежнай валюты і долары ў абменніках, але замежныя грашовыя банкноты аказаліся даволі дарагімі і адкладзены попыт на іх сябе так і не праявіў.

Між тым той жа МВФ ужо загадзя патрабуе ад нас прыняцця на ўзроўні кіраўніцтва краіны абавязацельстваў аб правядзенні структурных рэформ эканомікі і адпаведных абяцанняў асабіста ад дзеючага беларускага лідара А. Лукашэнкі. Адначасова спецыялісты гэтай заходняй уплывовай арганізацыі публічна канстатавалі слабую з боку РБ макраэканамічную палітыку ў 2011 годзе, што і прывяло да рэзкага пагаршэння сітуацыі ў беларускай эканоміцы і выклікала дэфіцыт грошай для знешняга гандлю і вострым крызісе на валютным рынку. МВФ пільна адсочвае сітуацыю з неабгрунтаваным павышэннем зарплат і рэкамендуе адначасова стварыць эфектыўную сістэму падтрымкі бедных слаёў насельніцтва.

Дарэчы, сёлета за 8 месяцаў цэны ў нас павялічыліся ў сярэднім прыкладна ў 1,5 разы. У той самы час беларускі рубль патаннеў яшчэ больш, амаль у 2,8 разы. Гэта адчувае і насельніцтва, аб’ёмы продажу наяўнай валюты банкам у 4 разы большыя, чым пакупкі долараў у абменніках. Праз паўгода доўгачаканыя у. а. у абменніках з’явіліся, на рынку валюты няма ажыятажу, але людзі чакаюць зніжэння валютных курсаў.

Пачынаючы з наступнага года, Беларусі трэба будзе вяртаць вялізныя даўгі і пагашаць свае знешнія запазычанасці. І сумы гэтыя немаленькія. Па ацэнцы МВФ, сёлета такі знешні доўг РБ дасягне да канца года 68,3 % ад ВУП, а праз 5 гадоў – ужо 85,6 %. Пік плацяжоў будзе ў 2016 годзе, калі нам прыйдзецца пагасіць сваім крэдыторам амаль 4 мільярды долараў (сёлета, для параўнання, вернем 1,5 млрд. USD). Таксама дзіўна, што Беларусь адносіць сябе да аднаго з сусветных лідараў па вытворчасці прадуктаў харчавання, але пры гэтым у 2011 годзе ў нас яны падаражэлі амаль на 54 %.

Прадукты для беларусаў даражэлі і ў самы спрыяльны перыяд года: напрыканцы лета ў сярэднім на 11 %, у той самы час у Расіі харчаванне патаннела ў жніўні на 1,8 %, ва Украіне – на 1,2 %, у Казахстане – на 0,1 %. Нават беларускі лідар абурыўся наконт цэнавага ўсплеску на месцах з падачы кіраўнікоў прадпрыемстваў галіны. Зараз у нас курсы асноўных валют працягваюць паціху зніжацца, пачаліся размовы аб павышэнні зарплат, але яны павінны быць зробленымі.

З 1 кастрычніка ў краіне ўводзяць куплю замежнай валюты выключна па пашпартах без абмежаванняў па колькасці набываемых сум. Як доўга працягнецца цяперашні перыяд нестабільнасці і зніжэння ўзроўню жыцця пры выхадзе з крызісу, будзе залежыць ад далейшай палітыкі ўлад. Пакуль жа 5-17 кастрычніка Беларусь павінна наведаць чарговая місія МВФ і прадоўжыць кансультацыі з беларускімі ўладамі наконт іх далейшай эканамічнай палітыкі.

Аб новай праграме фінансавай дапамогі нашай краіны з боку Захаду размовы цяпер няма. Толькі правільныя крокі беларускага кіраўніцтва дапамогуць палепшыць сітуацыю, захаваць золатавалютныя рэзервы і спыніць нарэшце шалёную інфляцыю і замацаваць абменны курс рубля.

## Дзень за днём

**По рынкавым валютным курсе сярэдняя зарплата беларусаў упала да 182 $. З пачатку года дэвальвацыя беларускай валюты склала ўжо 187 %, што прывяло да росту экспарту, але і да збяднення людзей. Айчынныя сярэднія заробкі сталі ў 3 разы меншыя за суседзяў-расіян, палякі зарабляюць ужо у 6 разоў болей за нас. У чарговы раз у Беларусі ў сярэднім на 3 % павялічыліся цэны на бензін і дызпаліва. Суда прысяжных, як у іншых краінах, у нас пакуль не будзе. Сталічныя студэнты дзённай формы навучання сталі ездзіць на грамадскім транспарце бясплатна. Як і чакалася, у Беларусі адмянілі пераход на сезонны зімовы/летні час.**

# Важнейшыя навіны свету

**Польшча.** Як заявіў прэм'ер-міністр Дональд Туск, краіна ў 2014 годзе пачне здабычу і продаж сланцавага газу, яго запасы найбуйнейшыя ў Еўропе – 5,3 трлн. кубаметраў.

**Афганістан.** Спецслужбы знішчылі ўсіх 6 баевікоў-смяротнікаў, якія напалі ў Кабуле на квартал, дзе размешчаныя пасольствы і замежныя місіі.

**Расія.** Добры ўраджай збожжа дазволіць краіне поўнасцю пакрыць унутраныя патрэбы ў зерні і павялічыць яго экспарт, аграрыі збяруць сёлета хлеба амаль 90 млн. тон.

**Данія.** Новым прэм'ер-міністрам упершыню стане жанчына, лідар сацыял-дэмакратаў Хэлле Торнінг Шміт пасля перамогі левай кааліцыі на парламенцкіх выбарах.

**Украіна.** Камісар ЕС Штэфан Фюле ў Ялце заявіў, што Украіна не атрымае статус асацыяраванага партнёра Еўрасаюза, калі не спыніць праследаванне Юліі Цімашэнкі.

**ЗША.** Кандыдат у прэзідэнты ад рэспубліканцаў Міт Ромні заявіў, што Барак Абама, "здаўшы" Расіі ракетныя аб'екты ў Польшчы, нічога не атрымае ад Масквы ўзамен.

**Італія.** Пад пагрозай дэфолту урад краіны, якая жыла не па сродках, звярнуўся да Кітая дапамагчы і набыць даўгавыя абавязацельствы і пайшоў на скарачэнне дзяржрасходаў.

**Англія.** Брытанскія вучоныя стварылі камп'ютарны дэтэктар хлусні з відэакамерай і сэнсарамі цяпла, які дазваляе па тварах чалавека вызначыць, гаворыць ён праўду альбо не.

**Бразілія.** Амаль 300 аўтамабіляў сутыкнуліся падчас моцнага туману паблізу Сан-Паўла, моцна пашкодзіла 220 аўто, загінуў вадзіцель фуры, раненні атрымалі яшчэ 50 чалавек.

**Ангола.** Чарнаскурая прыгажуня Лэйла Лопэс стала самай прыгожай дзяўчынай свету на конкурсе "Міс Сусвету-2011" у Бразіліі, атрымала залатую карону і прыз 250 тысяч $.

**Саудаўская Аравія.** Прынц Валід бен Талал аб'явіў пра адкрыццё ў пачатку 2012 года новага арабскага кругласутачнага тэлеканала, ён стане канкурэнтам Al Jazeera (Катар).

**Аргенціна.** У сталіцы краіны Буэнас-Айрэсе аўтобус сутыкнуўся з 2-ма цягнікамі, адразу на месцы ДТЗ загінула 7 чалавек, яшчэ 50 пасажыраў у крытычным стане.

**Літва.** У медцэнтрах Палангі і Абрамішкеса 10 грамадзян Беларусі, пацярпелых ад тэракту ў метро, пачалі бясплатны курс рэабілітацыі на 24 дні коштам 50 тыс. літаў.

**Расія.** Напярэдадні выбараў у Думу мільярдар Міхаіл Прохараў абвінаваціў Крэмль у маніпуляванні партыяй "Правая справа", выйшаў з яе з намерам стварыць новую партыю.

**Францыя.** Жыхар правінцыі Нармандыя выйграў рэкордную суму ў еўрапейскай латарэі Euromillions – 162 млн. еўра і адразу заняў 250-е месца ў спісе самых багатых французаў.

# Пераход на зімовы і летні час адмянілі



■ *Сяржук Серабро*

**У Беларусі адменены пераход на сезонны час. Такую пастанову прыняў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь 15 верасня 2011 года за нумарам 1229.**

Цяпер падлік часу на тэрыторыі нашай краіны будзе адбывацца ў адпаведнасці з міжнароднай сістэмай гадзінных паясоў па пасаваму часу плюс адна гадзіна без пераводу стрэлак гадзіннікаў на сезонны час.

Рашэнне аб адмене штогадовага пераводу стрэлак ў апошнюю нядзелю сакавіка на адну гадзіну наперад і ў апошнюю нядзелю кастрычніка на адну гадзіну назад прынята з мэтай узгодненага з дзяржавамі-ўдзельніцамі Мытнага саюза вылічэння часу, тлумачыцца ў заяве прэс-цэнтру Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Праз "Беларуськалій" напярэдадні дадатковых сесій на валютна-фондавай біржы ўрад Беларусі пазычыў у Расіі праз "Ашчадбанк" яшчэ 1 мільярд долараў.

**Мінск.** У краіне, як заявіў намеснік старшыні НАН РБ Сяргей Рахманаў, пачаліся выпрабаванні унікальных нанапрэпаратаў для лячэння анкалагічных захворванняў.

**Пінск.** Супрацоўнікаў мясцовай мытні засмуціла, што да пачатку 2012 года іх установа аб'яднаецца з Брэсцкай па заяўленым прынцыпе "адна вобласць – адна мытня".

**Мінск.** У Доме ўрада Беларусь падпісала з Кітаем рамкавае пагадненне коштам болей за 30 млрд. $ аб стварэнні на тэрыторыі РБ Кітайска-беларускага індустрыяльнага парку.

**Гомель.** Пасля капітальнай рэканструкцыі адкрыўся рух па 350-метровым мосце на рацэ Сож у цэнтры горада, па ім за суткі рухаюцца больш за 23 тысячы адзінак аўтатранспарту.

**Свіслач.** Шведская фірма ІКЕА вясной на тэрыторыі раёна пачне узводзіць сучасны дрэваапрацоўчы завод, аналагічны аб'екту паблізу Варшавы, дзе робяць і мэблю.

**Мінск.** Рабочыя цэха афарбоўкі МТЗ запатрабавалі ад дырэкцыі павысіць ім зарплату, якая ўпала да 1,7 млн. руб. у месяц, а зімой перавышала 2,2 мільёны.

**Светлагорск.** Дырэкцыя завода зборнага жалезабетону № 11 адмовіла факт забастоўкі рабочых, але пацвердзіла наяўнасць сур'ёзных эканамічных праблем на прадпрыемстве.

**Мінск.** РБ увайшла ў тройку краін СНД з самай нізкай зарплатай, бо заробкі ў доларавым эквіваленце ўпалі сёлета ў 2,5 разы, бяднейшыя за беларусаў толькі таджыкі (90 $ у месяц)

**Баранавічы.** На прасёлачнай дарозе ля вёскі Уласы ва уласным аўто знайшлі застрэленага 23-гадовага ўчастковага. Родныя ў шоку, не вераць, што ён добраахвотна пайшоў з жыцця.

**Гомель.** З залатым медалём чэмпіёна свету вярнуўся дамоў барэц грэка-рымскага стылю Алім Сялімаў, ён і яшчэ двое беларускіх барцоў заваявалі ліцэнзіі на Алімпіяду ў Лондане.

**Маладзечна.** На беразе вадаёма каля службовага аўто невядомыя збілі да смерці 33-гадовага дырэктара рыбгаса "Грыцава", яму пераламалі чэрап і абедзве нагі.

**Барысаў.** Вядучага форварда БАТЭ і зборнай РБ па футболе Віталя Радзівонава прааперыравалі ў Італіі, першы курс яго рэабілітацыі зойме 2 тыдні ў Рыме.

**Пінск.** Позна вечарам у вёсцы Трасцяніка вадзіцель "Форда" з Івацэвічаў наляцеў на воз з 3 пасажырамі, раніцай памерлі ў бальніцы 38-гадовы мужчына і жанчына 46 гадоў.

**Мінск.** Сталічныя ўлады вырашылі ўвекавечыць на мемарыяльнай дошцы ў крыпце Храма-помніка ў гонар Усіх Святых імёны ўсіх 15 ахвяр тэракту ў мінскім метро.

# Да канца года ў Беларусі будуць прыняты дадатковыя меры па падтрымцы бюджэтнікаў

■ *Аляксей Арэшка, БелаПАН*

**З улікам прагназаваных тэмпаў інфляцыі да канца года ўрад Беларусі плануе прыняць дадатковыя крокі па падтрыманні даходаў бюджэтнікаў, паведаміў 21 верасня на прэс-канферэнцыі намеснік прэм'ер-міністра Сяргей Румас.**

Паводле яго слоў, у найбліжэйшы час на разгляд кіраўніка дзяржавы будуць унесены прапановы аб павышэнні з 1 кастрычніка 2011 года тарыфнай стаўкі першага разраду для аплаты працы ў бюджэтнай сферы.

Пры гэтым Румас звярнуў увагу на тое, што ў кастрычніку адначасова з новай зарплатай будзе выплачана індэксацыя за верасень.

Апрача таго, з 1 лістапада ў бюджэтнай сферы будуць уведзены дадатковыя дыферэнцыяльныя даплаты па кожным з разрадаў адзінай тарыфнай сеткі. "Адпаведная норма аб увядзенні такіх даплат прадугледжана ў прапановах урада, якія ў комплексе будуць унесены на разгляд кіраўніка дзяржавы", — паведаміў віцэ-прэм'ер.

Паводле яго слоў, у выніку прыманых мер прагназуецца захаванне ў 2011 годзе рэальнай заработнай платы на ўзроўні 2010 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Руба.** Найлепшых у гісторыі паказчыкаў экспарту дабілася ААТ "Даламіт", за 8 месяцаў прадпрыемства прадала даламітавай мукі на 4,9 млн. USD ва Украіну, Расію і Літву.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец падпісаў пагадненне з кіраўніцтвам ААБ "Беларусбанк" аб ільготным крэдытаванні малога бізнесу па стаўцы 15,5 % на 3 гады.

**Талачын.** Мясцовы кансервавы завод атрымаў рэкордную ўраджайнасць бульбы – 494,1 ц/га, па вобласці гэты паказчык дасягнуў сёлета 216 цэнтнераў клубняў з гектара.

**Віцебск.** Тэлезавод "Віцязь" разам са сталічным "Гарызонтам" за 8 месяцаў вырабілі 241 тысячу тэлевізараў, што на чвэрць меней, чым летась, складскія запасы іх – 45 тысяч.

**Наваполацк.** У горадзе прайшла выязная беларуска-расійская сумесная калегія Камітэтаў па гідраметэаралогіі і маніторынгу забруджвання акаляючага асяроддзя.

**Лёзна.** На тэрыторыі раёна міліцыя затрымала грузавік, на якім жыхар Мінска перавозіў буйную партыю яек 144 тысячы штук на 70 млн. руб. без дакументаў, груз канфіскавалі.

**Докшыцы.** Падчас святкавання Дня 604-годдзя горада ўдзельнікі І міжнароднага эканамічнага інвестфоруму пазнаёміліся з дзейнасцю мясцовых 4-х лепшых аграсядзіб.

**Віцебск.** Камандаванне праслаўленай 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгадай прыняў новы камандзір, палкоўнік-дэсантнік Аляксандр Кулакевіч.

**Глыбокае.** На будоўлі ў Мінску вечарам загінуў 35-гадовы рабочы з райцэнтра, які ўпаў з даху 10-га паверха. Абставіны трагедыі пачала высвятляць Фрунзенская райпракуратура.

**Паставы.** У адзін з восеньскіх дзён райаддзел МНС прыняў 11 трывожных званкоў ад людзей з просьбай прыехаць знішчыць гнёзды шэршняў і вос, летам было 43 такія выезды.

**Віцебск.** У абласным цэнтры пачаўся суд над міліцэйскім экспертам, які не правёў дактыласкапію абвінавачваемага ў тэракце ў мінскім метро, тады прызыўніка ў войска.

**Гарадок.** Ля аўтатрасы на Віцебск на беразе возера ля вёскі Должа бройлерная фабрыка адкрыла яшчэ адно сваё фірменнае кафэ "У Ганны" ў сучасным еўрапейскім стылі.

**Полацк.** Райаддзел міліцыі распачаў крымінальную справу супраць 21-гадовага беспрацоўнага, у яго "Жыгулях" на вясковай дарозе знайшлі 33,3 грамы гераіну.

**Орша.** У выніку спецаперацыі затрымалі буйную суму падробных долараў (каля 25 тысяч) вельмі высокай якасці, увезеных у РБ праз тэрыторыю Смаленскай вобласці Расіі.

**Расоны.** На месцы забалочанага пустыра ў райцэнтры з'явілася зона адпачынку з прудам, дзіцячай пляцоўкай, аўтастаянкай, пірсам і помнікам – Дрэвам кахання і вернасці.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Свой апошні прытулак атрымаў польскі афіцэр-памежнік, які загінуў у баі з Чырвонай арміяй 17 верасня 1939 года. Яго парэшткі ў Галубіцкай пушчы знайшоў мясцовы жыхар Віктар Жаваранак, які працуе ў лясной гаспадарцы.**

*“Капалі супрацьпажарную паласу, і я звярнуў увагу на костку, якая была на схіле, капнуў далей і адкапаў чалавечыя косткі, – апавядае Віктар Жаваранак. – Я амаль на 100 адсоткаў быў упэўнены, каму яны належаць, бо пра подзвіг гэтага афіцэра я чуў ад старэйшых людзей. Ведаў, што і пахавалі яго непадалёк ад польскай стражніцы. Але дакладнага месца ніхто ўжо паказаць не мог. Я пазваніў свайму ўчастковаму міліцыянту, ён абяцаў разабрацца, я чакаў недзе тыдзень, але ніхто нічога не рабіў. Тады я звярнуўся ў польскую амбасаду, і праз 2 гадзіны мне патэлефанавалі спачатку польскі ваенны аташэ, потым консул. Пасля яны прыехалі да мяне, я паказаў ім тое месца, у архіве ў Лондане былі знойдзены дакументы, што сведчылі: падхарунжы Павал Палчынскі сапраўды служыў на стражніцы Каменны Воз”.*

**У свой час нашая газета правяла шмат цікавых экспедыцый па Глыбоччыне. У канцы 1990-ых, я (Ул. Скрабатун) і Зміцер Лупач пазнаёміліся з цікавым хлопцам Віктарам Жаваранкам, які, на падставе ўспамінаў мясцовых жыхароў, распавёў нам пра подзвіг камандзіра польскай заставы Паўла Палчынскага. Шмат хто потым пацвердзіў гэты факт. Наведалі мы і месца колішняй стражніцы ў Галубіцкай пушчы. Гэтая тэма не зыходзіла са старонак нашай газеты больш за 10 гадоў. І вось, канец гісторыі. На магіле героя стаіць помнік...**

■ **Кастусь Шыталь**

# На Копцеўцы перапахавалі абаронцу мяжы

На глыбоцкіх могілках Копцеўка адбылося перапахаванне парэштказ польскага памежніка Паўла Палчынскага, які загінуў 72 гады таму ў Галубіцкай пушчы. Палчынскі быў камандзірам заставы Каменны Воз, якая знаходзілася недалёка ад вёскі Вострава на мяжы ІІ Рэчы Паспалітай і Савецкага саюза. Раніцай 17 верасня 1939 года савецкія войскі пачалі наступленне на Польшчу, каб, як сцвярджала камуністычная прапаганда, “вызваліць рабочых і сялянаў ад польскіх паноў”.

Павел Палчынскі пабачыў адзін з савецкіх вайсковых аддзелаў, які перайшоўшы дзяржаўную мяжу, накіраваўся ў бок заставы Каменны Воз, і зразумеў, што сілы няроўныя. Ён загадаў сваім падначаленым адступаць, а сам узлез з кулямётам на вежу заставы і да апошняга патрона страляў па праціўніку. Было забіта некалькі дзясяткаў чырвонаармейцаў. Савецкія вайскоўцы засакрэцілі інфармацыю пра гэты бой, але мясцовыя жыхары памяталі яго дзесяцігоддзямі.



Стражніца (застава) Каменны Воз у Галубіцкай пушчы. На гэтым месцы цяпер сасновы бор. *Архіўны здымак.*



Ля магілы П. Палчынскага на Копцеўцы. Справа – Віктар Жаваранак, жыхар вёскі Хралы, які перахоўваў успаміны старажылаў пра подзвіг польскага афіцэра і – сімвалічна – ён і знайшоў парэшткі П. Палчынскага ў Галубіцкай пушчы. *Фота Зм. Лупача.*

Цела гераічнага памежніка было пахаванае каля заставы і 72 гады праляжала ў магіле пасярод пушчы. Толькі ў ліпені гэтага года ўдзельнікі каталіцкага моладзевага летніка адшукалі парэшткі Палчынскага. Ксёндз Мечыслаў Янчышын з Глыбокага высвятліў імя абаронца мяжы і арганізаваў перапахаванне. 17 верасня парэшткі Палчынскага былі з гонарам пахаваныя на Копцеўцы, побач з магіламі польскіх жаўнераў, якія змагаліся за сваю дзяржаву ў 1919-20 гадах.

У перапахаванні ўдзельнічалі ваенны аташэ польскай амбасады Ян Маньчынскі, першы сакратар консульства Польшчы Роберт Навакоўскі, ад мясцовай улады прысутнічаў галоўны ідэолаг глыбоцкага райвыканкаму Міхаіл Чарапкоўскі. Перад пахаваннем удзельнікі жалобнага мерапрыемства наведалі месца, дзе стаяла памежная застава, якую абараняў Павел Палчынскі. На месцы заставы быў асвечаны крыж і памятная шыльда.

Афіцыйныя гісторыкі – і савецкія, і беларускія – найчасцей выносілі станоўчыя ацэнкі дзеяням Чырвонай арміі ў 1939 годзе, бо пасля іх беларускі народ быў уз’яднаны ў межах адной дзяржавы. Грамадства забываецца пра тэрор, які пачаўся пасля “ўз’яднання”. Тады ад рук камуністаў загінулі дзясяткі тысяч невінаватых нашых суайчыннікаў – расстрэльвалі ці вывозілі на Сібір усіх, хто меў шмат зямлі або займаў пры палякаў нейкую пасаду. Толькі праз Беразвецкую турму прайшлі некалькі тысяч палякаў і беларусаў, абвешчаных “ворагамі народа”.

Перапахаванне парэшткаў польскага памежніка, якое адбылося ў 72-ю гадавіну ўварвання Чырвонай арміі ў Польшчу, з’яўляецца годным крокам да пераасэнсавання той старонкі беларускай гісторыі.



На месцы стражніцы Каменны Воз (ад якой захаваліся падмуркі) у Галубіцкай пушчы ўсталяваны памятны крыж. *Фота Зм. Лупача.*

# Крыж у Крулеўшчыне ўсё ж паставілі

■ **Кастусь Шыталь**

У Крулеўшчыне каталікі вырашылі пайсці на саступкі мясцовым праваслаўным. Як ужо пісала “Вольнае Глыбокае” (№32, 11 жніўня 2011 года), праваслаўныя патрабавалі ад каталікоў адмовіцца ад устаноўкі крыжа ў цэнтры мястэчка.

Каталікі не сталі далей распальваць скандал і ўсталявалі крыж на ўскраіне мястэчка, пры дарозе на Докшыцы. Каталіцкі крыж стаяў там і раней. 17 верасня святыню асвяціў мясцовы пробашч ксёндз Юры Бараўнёў. На ўрачыстасць асвячэння новага крыжа сабраліся больш за 30 чалавек.

Вернікі прайшлі працэсіяй ад крыжа да касцёла, дзе ксёндз Віктар Місевіч з Бягомля адслужыў Імшу ў гонар свята Ўзвышэння Крыжа. Святар заклікаў вернікаў прабачыць людзей, якія пачалі скандал і маліцца за іх пакаянне.

Капсула са святынямі са Святой Зямлі, якую першапачаткова планавалі закласці пад новым крыжам, будзе закладзена побач з касцёлам.

*Фота кс. Віктара Місевіча*



**У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі праходзіць выстава «Парк юрскага перыяду». На ёй выстаўлены дзевяць муляжоў дыназаўраў у натуральную велічыню з калекцыі мастака Уладзіміра Найбіча з горада Бяроза Брэсцкай вобласці.**

# На выставе ў Віцебску паказаныя муляжы дыназаўраў у натуральную велічыню

Дагістарычныя рэптыліі, якія ўражваюць сваім памерам і амаль натуральным выглядам, занялі дзве музейныя залы. Каля кожнага яшчура ўстаноўлены таблічкі з апісаннем яго параметраў, арэала пражывання, павадак і смакавых пераваг. Тут можна ўбачыць, як выглядалі цынадонт, пцеразаўр, сарказаўр, спіназаўр, эйніязаўр, цылафізіс, дзейнаніх, эўплацыфал, тыраназаўр. Асобны «сюжэт» выставы – нараджэнне маленькага дыназаўрыка, дзіцяняці дыназаўра, які вылупляецца з вялікага яйка. Экспазіцыю дапаўняе 20-кілаграмовая вялікая галёначная костка мамантa, знойдзеная ў Драгічынскім раёне на Брэстчыне.

Муляжы дыназаўраў мастак вырабляе з дапамогай металічнага каркаса, які пакрывае пенапластам, мантажнай пенай, гібкім пластыкам. Затым «цела» рэптыліі шліфуецца і абцягваецца скурзайменнікам, дэрматынам і фарбуецца маслянымі ці акрылавымі фарбамі. Дэталі – сківіцы, зубы, вочы – робяцца з пчалінага воску ці пластыку.

Каб «вылепіць» толькі адно дзіцяня дыназаўра, Уладзімір Найбіч патраціў два месяцы. У працы яму дапамагае жонка Таццяна і трое дзяцей. На стварэнне ўсіх дзевяці яшчураў «Парка юрскага перыяду» ў сям`і пайшлі тры гады. Некалькі гадоў таму муж і жонка Найбічы заняліся выставачнай дзейнасцю, і гэтая экспазіцыя падарожнічае па розных гарадах Беларусі. У калекцыі самадзейных мастакоў з Бярозы ёсць не толькі макеты дыназаўраў, але і гігантскіх матылёў, жукоў і рыб, якія жылі ў дагістарычны перыяд.

Убачыць выставу дыназаўраў у Віцебску можна да 10 студзеня.

*Таццяна Мацвеева, БелаПАН.*




**Можна доўга спрачацца аб тым, мае ці не мае Беларусь патэнцыйнага ворага? Ці збіраецца нейкі агрэсар нападаць на нашу краіну? А калі так, то ці здольная наша беларуская армія абараніць суверэнітэт краіны?**

**Нагода для турбот ёсць. Скарачаюцца тэрміны службы ў арміі, а між тым на яе ўзбраенне паступае найноўшае і ўсё больш складанае ўзбраенне. А гэта азначае, што прафесіяналамі павінны быць не толькі афіцэры, але і жаўнеры. І якое выйсце? Падоўжыць тэрмін службы? Альбо ёсць іншы варыянт – перавесці армію на прафесійную аснову? Аб усім гэтым разважае капітан запасу Фадзей Шымуковіч.**

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*капітан запасу.*

# Апора незалежнасці і суверэнітэту

**В полной и здоровой натуре тяжело лежат на сердце судьбы родины… всякая благородная личность глубоко сознает свое кровное родство, свои кровные связи с отечеством.**

*В.Г.Белинский*

Жадаць і баяцца – вось два галоўныя стымулы чалавечай дзейнасці. Усялякі страх абавязкова дапускае штосьці дурное, усялякае жаданне, наадварот, мае на ўвазе дабро. Але ў чым жа заключаюцца нашы сапраўдныя няшчасці і нашы радасці? Якімі сродкамі мы можам пазбегнуць першых і дасягнуць другіх? Вырашэнне гэтых пытанняў складае галоўную мэту нашага сённяшняга жыцця, нашых паўсядзённых праблем – будзем мы жыць у свабоднай, незалежнай і суверэннай рэспубліцы, або, наадварот, пападзём у эканамічную і, не дай Бог, палітычную залежнасць ад каго б там ні было? А каб такое не здарылася, мы павінны быць упэўненыя, што у нас за плячыма ёсць надзейная ахова не толькі нашых палітыкаў, але і надзейныя ўзброеныя сілы, здольныя даць адпор любому, хто пасягне на нашу незалежнасць.

Крыху гістарычных фактаў, якія пацвярджаюць, што толькі добра арганізаваным, навучаным узброеным фарміраванням, якія валодаюць высокім прафесійным навыкам вядзення баявых дзеянняў, па плячы рашаць складаныя баявыя сітуацыі. У 4 стагоддзі да нашай эры прафесійная армія Аляксандра Македонскага дазволіла яму заваяваць велізарныя тэрыторыі суседніх дзяржаў. Пасля яго смерці, калі пераемнікі не змаглі захаваць армію як высокапрафесійную арганізацыю, імперыя распалася як картачны домік.

Кожны князь стараўся мець ваеннае фарміраванне з прафесійных воінаў – дружыну, колькасць салдатаў у якой і ступень узбраення зыходзіла з памераў яго казны. Калі ў 1579г. Стэфан Баторый пасля праведзенага агляду свайго войска ў Дзісне адправіўся ў паход вызваляць горад Полац ад войска Івана Грознага, у авангардзе ішлі прафесіяналы з наёмнай венгерскай пяхоты, добра навучанай і ўзброенай.

Пытанню арганізацыі ўзброеных сіл заўсёды надавалася шмат ўвагі ў любой дзяржаве. У 1770г. Румянцаў выдаў сваю навуковую працу “Абрад службы”, якая была прынята ў якасці статута рускай арміі. А яго “Дакладная запіска Кацярыне II аб арганізацыі арміі” (1777г.) была пакладзена ў аснову далейшага паляпшэння арганізацыі арміі. Зрабіў свой унёсак ў паляпшэнне арганізацыі арміі і павышэння яе баяздольнасці і Сувораў сваёй “Навукай перамагаць” (1796-1797гг.)

Імператар Аляксандр I з мэтай утрымання пастаяннага войска і эканоміі на яго выдатках у 1810 годзе даў загад Аракчэеву аб увядзенні на дзяржаўных землях ваенных пасяленняў. Ваеннае пасяленне складалася з 60 дамоў-сувязяў, у якіх размяшчалася рота з 228 чалавек. У кожным доме пражывала 4 гаспадары, якія абавязаны былі весці непадзельную грамадскую гаспадарку , штосьці накшталт міні-калгаса. Жыццё ваеннага пасялення строга рэгламентавалася. Круглы год калгаснікі праходзілі ваеннае навучанне. Гаспадарчыя работы часта праводзіліся са спазненнем, несвоечасова, ураджай быў дрэнны, лютаваў голад і хваробы. Дзеці мужчынскага полу па дасягненні 7 год залічваліся ў кантаністы (італьянскае conto – лік), г.зн. тыпу нашых сучасных дапрызыўнікоў і прызыўнікоў. Па дасягненні 18 год залічваліся ў воінскія часці. Цялесныя пакаранні, збіванне да паўсмерці былі звычайнай справай. Ваенныя пасяленні складалі чацвёртую, па некаторых дадзеных, трэцюю частку ваенных фарміраванняў царскай арміі. Нягледзячы на тэрор з боку ўлад, у ваенных пасяленнях часта ўспыхвалі непадпарадкаванні і паўстанні. У 1857 г. імператар Аляксандр II ваенныя пасяленні ліквідаваў. Была праведзена “Ваенная рэформа” 1860-70гг, аўтарам якой быў Мілюцін, якая ўвяла воінскую павіннасць для асоб мужчынскага полу па дасягненні вызначанага ўзросту. Гэтая рэформа з некаторымі зменамі і дапаўненнямі дзейнічае і ў наш час.

Першая і Другая сусветныя войны, асабліва навукова-тэхнічны прагрэс ва ўзбраенні арміі пастаянна ставяць новыя праблемы, што эксплуатаваць новую тэхніку і ўзбраенне павінны высокакваліфікаваныя не толькі афіцэрскія кадры, але сяржанты і салдаты. І вельмі часта вынік прымянення высокатэхнічнага ўзбраення і тэхнікі залежаць ад салдат і сяржантаў.

У 50-80 гадах, калі тэрмін службы быў 3 гады, 4 гады ў ВМФ, у арміі сярод сяржантаў і салдат культывавалася атрыманне класнасці па сваёй ваеннай спецыяльнасці. Былі ўведзены нарматывы 3-га, 2-га і 1-га, вышэйшага класа, а ў танкавых войсках і майстры кіравання танкам для механікаў-вадзіцеляў. Патрабаванні былі сур’ёзныя, неабходна было здаць тэарэтычныя і практычныя навыкі камісіі. Да здачы на 3-і клас дапускаўся спецыяліст ваеннай прафесіі, які праслужыў год і не меў заўваг па службе. Гэта было прэстыжна. Выдаваўся нагрудны знак для нашэння кожны дзень на правым баку гімнасцёркі, кіцеля і пэўная грашовая дабаўка кожны месяц. Спецыялістам 1-га класа можна было стаць толькі на апошнім годзе службы і лічыўся ён асам сваёй ваеннай спецыяльнасці. Спецыяліст 2-га і 1-га класа дапамагалі маладым салдатам асвойваць сваю ваенную спецыяльнасць. Гэта быў вельмі станоўчы момант у павышэнні баявой падрыхтоўкі войск. Але ён страціў сваё значэнне са скарачэннем тэрмінаў службы.


Жанчыны ў беларускім войску.
*Фота nn.by*

Я па ваеннай прафесіі радыёлакатаршчык. У 1956 годзе закончыў у Мінску 6-ю школу артмайстроў па вывучэнні станцый САН (станцыя арудыйнай наводкі) і ПКАЗА (прыбор кіравання артылерыйска-зенітным агнём). Для таго часу гэта было страшнае зенітнае ўзбраенне. У сувязі з узрастаннем хуткасці самалёта яно страціла сэнс. На змену прыйшлі новыя зенітныя комплексы. Мне незразумела, як можна за паўтара гады дасканала не толькі засвоіць, але авалодаць баявымі навыкамі кіравання гэтай вельмі складанай і дарагой зброяй.

І калі сёння ў тэлеперадачах дэманструюць, як нашы ракетчыкі без адзінага промаху на палігонах паражаюць паветраныя мішэні, з аднаго боку, душа радуецца. А ну, паспрабуй, сунься ,агрэсар! Але, з другога боку, закрадваецца сумненне. Бо стральба ідзе ва ўмовах, якія напамінаюць спаборніцтвы паляўнічых у стральбе па талерачках, калі спартсмен ведае, што вось-вось у гэтым напрамку з’явіцца мішэнь. Або штосьці падобнае на паляванні на звера, калі паляўнічы стаіць на нумары ў чаканні, што загоншчыкі выганяць звера, а ты ўжо не губляйся, не прамахніся.

Вось калі НАТАўскія самалёты сістэматычна бамбілі Югаславію, былу збіты ўсяго адзін самалёт. А былі ж там нашы савецкія сродкі ПВА. Праўда, з той пары сродкі ПВА ўдасканальваліся, але ўдасканальваліся і сродкі нападзення.

Рашэнне Галоўнакамандуючага, Прэзідэнта РБ А.Г.Лукашэнкі, аб пераводзе арміі на кантрактную аснову вітаю і ўхваляю. Гэта будуць нашы Узброеныя Сілы, здольныя ў любы час стаць на ахову незалежнасці нашай радзімы. Яны будуць заўсёды гатовы прыняць першы ўдар любога агрэсара, даць яму належны адпор на першай стадыі вайны, даць магчымасць правесці мабілізацыю людскіх рэсурсаў і ўсёй гаспадаркі на ваеннае становішча і далейшага адпору агрэсару. “Няма вышэй ідэі, як ахвяраваць асабістым жыццём, абараняць сваіх братоў і сваю айчыну або нават проста абараняць інтарэсы сваёй дзяржавы”, – пісаў Дастаеўскі. Але як сёння растлумачыць з’яву, калі многія малалыя людзі, якія падлягаюць прызыву ў армію, ухіляюцца ад службы любымі шляхамі. Нават ідуць на порчу свайго здароўя. Ці можна лічыць надзейнымі ахоўнікамі тых салдат, якіх вылавілі міліцыянеры і работнікі ваенкамата і пад канвоем даставілі да месца службы? Адзін з такіх “ахоўнікаў” айчыны сказаў, што добра было б, каб вайна, калі яна пачнецца, пачалася б як у 41-м годзе, раніцай, каб да вечара можна было здацца ў палон. Сказаў быццам бы жартам, але такія жарты могуць стаць сапраўднымі. Бо выпадкі добраахвотнай здачы ў палон, няхай і не масава, але былі і ў Вялікую Айчынную.

Не могуць не выклікаць непакой і выпадкі ганебных паводзін маладых людзей у адносінах да ветэранаў вайны. А ці нармальная з’ява, калі крадуць баявыя ўзнагароды сваіх дзядоў унукі і прапіваюць іх ці мяняюць на спіртное. Наша тэлебачанне пастаянна рэкламуе асоб, якія сумелі дасягнуць пэўных поспехаў у бізнесе, асабістым жыцці, асоб, якія не маюць музычнай адукацыі, але якія пішуць і выконваюць сваю эрцаз-музыку. Але ці многія нашы маладыя, ды і пажылыя людзі, ведаюць пра подзвіг Героя Беларусі, лётчыка, падпалкоўніка Карвата Уладзіміра Мікалаевіча, які коштам свайго жыцця выратаваў дзясяткі людзей ад смерці. Чаму мы маўчым аб гэтым і падобных выпадках.

*Працяг на стар. 11*



# Для поўнага шчасця не хапала толькі юшкі

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Вёска Ломашы, вялікая і прыгожая, самае сапраўднае аграмястэчка. 20 верасня наш герой «Рыжоў» сядзеў дома, сумна, пайду я пагуляю, - падумаў ён. І вось ужо ідзе Рыжоў па прыгожай і дагледжанай вуліцы мястэчка, надвор'е выдатнае, восень, клёны апрануліся ў самы свой прыгожы ўбор, але ўсё адно чагосьці не хапае. І тут на сустрэчу лепшы сябар «Федзя Лукін», зараз можна на дваіх і сцяміць. А сцямілі вельмі хутка, восеньскі вечар кароткі, сябры ўзялі рыбалоўныя сеткі і хуценька махнулі на сажалку, прыналежную мясцовай гаспадарцы, балазе, што вартаўнік у начны час адсутнічае, напэўна, баіцца сам сябе і хаваецца дома, а можа і ў дзелі з парушальнікамі. Вось і сеткі ў сажалцы, а рыбка трапляецца ўся добрая, карась добры, ды карп важкі. Палавіўшы зусім трохі, сябры вырашылі, хопіць, рыбы амаль поўны мех, трэба ісці смажыць. Але, не паспелі нашы героі адысці далей ад сажалкі, як іх затрымалі супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету сумесна з работнікамі міліцыі. Улоў нашых «гора-рыбакоў» пацягнуў на 26 кг., а за рыбу, узятую незаконна ў гаспадаркі, неабходна амаль 300 тысяч рублёў, ды і штраф яшчэ раённы суд выпіша немалы.

А вось і наступілі доўгачаканыя выхадныя, пасля працоўнага тыдня можна паехаць у вёску і адпачыць, так думаў жыхар г. Мінска Анатоль Шантар. Прыехаўшы ў в. Крывое Пастаўскага раёна ў пятніцу ўвечары, наш госць добра пасядзеў з сябрамі, ну а ў суботу 24 верасня працягнуў свой адпачынак. Толькі для звычайнага адпачынку захацелася нашаму герою і яго сябрам юшкі паесці, балазе возера Крыўскае побач і сябры добрыя. Узялі сеткі і паехалі на машыне на возера, але не чакалі госці нашай сталіцы, што і на сельскай мясцовасці ёсць работнікі міліцыі і інспекцыі, якія і затрымалі сталічных гасцей. Зараз Анатолю Шантару прыйдзецца адказваць не толькі за захоўванне забароненых прылад рыбалоўства, 4 лесачных сетак, але і за кіраванне аўтамашынай у стане алкагольнага ап'янення. Бо акрамя сетак у машыне Анатоль яшчэ ладна выпіў перад рыбалкай. Раённы суд па добрай якасці ацэніць дзеянні нашага госця са сталіцы.

Прыведзены прыклад, на жаль, не адзінкавы на тэрыторыі вобласці, а таму, каб не патрапіць у непрыемныя сітуацыі, выконвайце заканадаўства.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць у Глыбоцкую міжрайінспекцыю на тэлефон «гарачая лінія»: 2-86-70 (кругласутачна). Маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49

# За паўгода Беларусь наведалі амаль 2 млн. замежных турыстаў

**За паўгода Беларусь наведалі больш як 1 млн. 995 тыс. замежных турыстаў, паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга 26 верасня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, гэта амаль на 10% больш у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Статыстыкай улічваліся іншаземцы, якія прыязджаюць у Беларусь, за выключэннем тых, хто прыязджае на працу, на вучобу або на пастаяннае месца жыхарства. «На фоне адбітка міжнароднага крызісу, які адчулі амаль усе краіны-суседзі, Беларусь адна з нямногіх краін у рэгіёне, якая захавала станоўчую дынаміку, сказаў Шульга. Гэта гаворыць пра тое, што агульныя падыходы, агульная палітыка ў частцы рэгулявання, каардынацыі турызму, напэўна, правільная».

Як паведаміў намеснік міністра, больш як 70% іншаземцаў грамадзяне краін-суседзяў. Больш за ўсё ў Беларусь прыязджалі з Літвы, больш за чвэрць ад усіх іншаземцаў, на другім месцы па колькасці наведванняў грамадзяне Украіны, на трэцім расіяне, якія склалі 21% ад усіх, хто прыязджае ў Беларусь. На чацвёртым месцы грамадзяне Германіі, на пятым Турцыі. Прычына росту турыстаў з Турцыі - добрыя транспартныя зносіны, асабістыя адносіны, даступнасць казіно, зазначыў Шульга. Дастаткова вялікая ўдзельная вага сярод агульнай колькасці замежных турыстаў у грамадзян Вялікабрытаніі, ЗША і Японіі.

Намеснік міністра таксама паведаміў, што за мінулы год больш чым удвая ўзрасла колькасць турыстаў з Кітая і Нідэрландаў. На 45% павялічылася колькасць наведвальнікаў з Расіі. Разам з тым, зменшылася колькасць турыстаў з краін СНД Малдовы, Узбекістана, Таджыкістана, Казахстана.

Шульга зазначыў, што за першае паўгоддзе экспарт турыстычных паслуг павялічыўся на 23,4% у параўнанні з мінулым годам (у доларах). «Магло быць больш. Але тэмпы, якія мы захоўваем за апошнія тры гады, нас радуюць», - сказаў ён. Паводле слоў намесніка міністра, цэны ў доларах прынцыпова не растуць, кошт размяшчэння, транспартных, рэстаранных паслуг нават зменшыўся ў параўнанні з мінулым годам.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***

## МНС інфармуе
**на 27.09.2011 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1018;
Гібель людзей – 148 , з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3837,1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 48;
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма;
Урон – 422 040 132 руб.

## Укралі мотакасу

У суботу, 24 верасня 2011г, каля магазіна «Гаспадар» была ўкрадзена мотакаса EXTEL зялёнага колеру. Просьба да асоб, якія ведаюць якую-небудзь інфармацыю, патэлефанаваць па тэл. 2-28-10, або 8-033-645-75-45(мтс). Узнагарода за дакладную інфармацыю гарантуецца.

## Прыемны вечар у Паставах

9 верасня нам давялося адзначыць юбілей у рэстаране г. Паставы, аб чым мы зусім не шкадуем. Спакойная і ўтульная атмасфера спрыяла адпачынку. А асабліва ўсім нам спадабалася музычнае суправаджэнне вечара. Маладыя выканаўцы Ліка і Андрэй шчыра і прафесійна спявалі для нас, задавальняючы густы і моладзі, і дарослых. Ніхто не астаўся раўнадушным: усе танцавалі і спявалі разам з імі. І падумалася (а сярод нас былі два музыканты), што многім сучасным “зоркам” далёка да таленту гэтай маладой і абаяльнай дзяўчыны.

*З павагай сем'і Дубовік, Сауліч, Сандзюк, Дабралёт.*
Паставы, Глыбокае, Мінск

## Віншаванкі

Ірыну Аляксандраўну Гарбачову

**Віншую з днём нараджэння!**

Жадаю здароўя, удачы, шчасця, поспехаў у працы, кахання і каб вакол былі толькі добрыя людзі.

*Ала Стахоўская.*

# Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд»

■ **С.П. Пятух,**
*начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС маёр міліцыі.*

На ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС знаходзіцца 321 грамадзян, з іх:

– па прысудах судоў да пакаранняў, не звязаных з пазбаўленнем волі –136;

– якія маюць не знятую і не згашаную асуджанасць пасля адбыцця пакарання – 185.

Паводле плану асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў УУС Віцебскага аблвыканкама з мэтай прафілактыкі рэцыдыўнай злачыннасці, папярэджанню злачынстваў і правапарушэнняў з боку асобаў, якія знаходзяцца на ўліку ў крымінальна-выканаўчых інспекцыях вобласці з 05.09 па 12.09.2011 года было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд» з удзелам усіх службаў Глыбоцкага РАУС і з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь.

Падчас правядзення мерапрыемства былі правераны па месцы жыхарства ўсе падуліковыя, якія знаходзяцца на ўліку ў інспекцыі. Падчас праверкі выяўлены шэраг парушэнняў устаноўленых абмежаванняў з боку асуджаных, якія адбываюць пакаранне па прыгаворах судом не звязаным з пазбаўленнем волі, а менавіта адсутнасць па месцы жыхарства ў начны час, знаходжанне ў грамадскіх месцах у п'яным выглядзе ў вячэрні час і г.д.

За злоснае ўхіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе выпраўленчых прац следчым аддзяленнем папярэдняга расследавання (САПР) Глыбоцкага РАУС былі ўзбуджаны 3 крымінальныя справы па арт. 416 КК РБ.

Па ініцыятыве пракуратуры Глыбоцкага раёна з мэтай прафілактыкі рэцыдыўнай злачыннасці з боку асобаў, якія мелі асуджанасць 15.09.2011 года адбылося выязное судовае пасяджэнне ў Удзелаўскім с/с у стаўленні асуджанага да пакарання, не звязанаму з пазбаўленнем волі ў выглядзе выпраўленчых прац жыхара в. Папшычы грамадзяніна К. па арт. 416 КК РБ (злоснае ўхіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе выпраўленчых прац) з запрашэннем асобаў, якія патрапілі ў поле зроку органаў улады.

З выкарыстаннем розных метадаў працы з прыцягненнем усіх суб'ектаў прафілактыкі, уключаючы працоўныя калектывы, сельскія выканаўчыя камітэты і г.д., сёлета атрымалася зменшыць узровень рэцыдыўнай злачыннасці на тэрыторыі Глыбоцкага раёна і па рэспубліцы ў цэлым.

# Выконвайце правілы працы ў ахоўных зонах ліній электраперадач

■ **Ішуцін А.Н.,**
*інспектар Глыбоцкай МРА інспекцыі Энерганагляду.*

Для забеспячэння захаванасці электрычных сетак напругай да і вышэй 1000 В, стварэння звычайных умоў эксплуатацыі гэтых сетак і прадухілення няшчасных выпадкаў вакол электрычных сетак усталёўваюцца ахоўныя зоны. І невыкананне правіл працы ў ахоўных зонах электраперадач часцяком прыводзіць да няшчасных выпадкаў.

Пры расчыстцы пляцоўкі пад будаўніцтва ПС ЗАТ «Трэст Прамбуд» «Аздараўленча-турыстычнага комплексу н.п. Пліса» працы праводзіліся ў ахоўнай зоне паветранай лініі электраперадачы напругай 10 кв, што прывяло да наезду бульдозера на апору, у выніку жалезабетонная апора была зламана і абарваны два правады. І толькі па шчаслівай выпадковасці ніхто не пацярпеў.

Пры ўборцы збожжавых культур камбайнер СХФ «Прошкава» ААТ «Глыбоцкага аграсэрвіса» пры развароце камбайна здзейсніў наезд і пашкодзіў жалезабетонную апору паветранай лініі электраперадачы 10 кв.

У адпаведнасці з патрабаваннямі Правіл тэхнікі бяспекі пры працы з ужываннем механізмаў і грузапад'ёмных машын у ахоўнай зоне павінны праводзіцца па нарадудопуску. Перасоўванне механізмаў і грузапад'ёмных машын у ахоўнай зоне ВЛ дапушчаецца пад наглядам адказных асобаў.

Парадак і ўмовы правядзення прац у ахоўных зонах ліній электраперадач павінны быць узгоднены з арганізацыяй, якая эксплуатуе дадзеную лінію.

Забараняецца праводзіць якія-небудзь дзеянні, якія могуць парушыць звычайную работу электрычных сетак, прывесці да іх пашкоджання ці да няшчасных выпадкаў.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні па артыкуле 20.3 « Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.

**Пайшоў з жыцця**
**Сяргей Васільевіч Мічураў.**

Вялікі дзякуй людзям, якія дапамаглі правесці ў апошні шлях, а менавіта Аддзел дэпартамента аховы г. Глыбокае, птушкафабрыкі в. Марцыбыліна, суседзям, печчым, айцу Сергію, паварам Пішчык Ірыне, Узлоўскай Тані, Людміле Варапаевай, Бекіш Леанідзе і ўсім іншым, хто не застаўся раўнадушным да нашай бяды.

***Родныя і блізкія.***

